# НАДЗЕЙНЫМ ШЛЯХАМ

**Міхась ЛЫНЬКОЎ,**
народны пісьменнік БССР



МЫ СТУПАЕМ на парог новага, 1972 года. Якім ён будзе? Што новага прынясе ён свету? Чым парадуе ён нас, савецкіх людзей?

Нашы людзі ніколі не гадаюць на «кофейной гуще», не складаюць гараскопаў, не звяртаюцца за дапамогай да астролагаў. Ды і сярод шматлікіх прафесій нашых не знайсці ніводнага астролага—ні штатнага, ні пазаштатнага. Мы матэрыялісты. Мы цвяроза глядзім на ўсё, што адбываецца на свеце, ацэньваем усе з'явы, усе падзеі з пункту погляду непарушных законаў грамадскага жыцця. Кіруючыся гэтымі законамі, абапіраючыся на багацейшы вопыт савецкіх людзей, на іх вялікія перамогі і здабыткі — і ранейшыя і апошняга года, — кожны савецкі чалавек можа з поўным правам сказаць: год наступны будзе таксама годам далейшага руху наперад, годам новых здзяйсненняў, новых заваёў ва ўсіх галінах нашай прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры, ва ўсіх сферах жыцця савецкіх людзей: іх узаемаадносін, іх дачыненняў да сваіх суседзяў і да ўсяго свету. Адным словам, 1972 год будзе новай, пачэснай ступенню далейшага росту матэрыяльнага і духоўнага дабрабыту нашага народа.

Пражыты год быў багаты на розныя падзеі. Галоўнай з іх быў XXIV з'езд КПСС. У з'ездзе, у яго працы і пастановах як бы ў гіганцкім люстры знайшла свой яркі адбітак наша радасна хвалюючая рэчаіснасць — уся ў руху, росце, маладым энтузіязме, у сапраўдным бальшавіцкім размаху. Пастановы з'езда — гэта дакладна выверааны компас, з якім наша дзяржава, падобная на магутны карабель, смела, адважна рушыць у вялікі шлях, у далёкае плаванне, не баючыся розных перашкод, розных навальніц і цыклонаў, якія непазбежны ў сучасным свеце, не вызваленым яшчэ канчаткова ад капіталізму і яго перажыткаў. І хаця ён не пазбавіўся, гэты свет, ад розных з'яў і праяў капіталізму, мы ўсё ж ясна бачым, як пашыраюцца па свеце сацыялістычныя ідэі, як няўхільна расце іх уплыў на свядомасць працоўных людзей па ўсіх кутках свету, пачынаючы ад заняволеных яшчэ каланіяльных краін, а таксама краін, якія толькі-толькі заваявалі сваю незалежнасць, і канчаючы самымі багатымі краінамі капіталістычнага свету.

На лістападаўскім Пленуме Цэнтральнага Камітэта нашай партыі і потым на сесіі Вярхоўнага Савета СССР былі разгледжаны пытанні новага пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі і бюджэт на 1972 год. Аб плане новай пяцігодкі і яе задачах Л. І. Брэжнеў сказаў, што раней аб такіх задачах «мы маглі толькі марыць». І гэта сапраўды так. Прывядзём цікавы прыклад з нашай беларускай рэчаіснасці, з таго, што ўжо дасягнута на сённяшні дзень. Ціхан Якаўлевіч Кісялёў у сваім дакладзе на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі прывёў некалькі цудоўных лічбаў. Ураджай збожжавых культур у гэтым годзе дасягнуў 21 цэнтнера з лішкам з гектара, а ў 17 раёнах нават 25 цэнтнераў, а ў паасобных гаспадарках атрымана больш чым па 30 і нават 40 цэнтнераў.

І гэта на нашай беларускай зямлі, якая не пахла і не пахне чарназёмам, на якой часам не сабіралі і таго, што пасеялі, на зямлі, на якой яшчэ параўнальна нядаўна аплата працадня калгасніка была далёка ад кілаграма збожжа. Я ўжо не кажу аб даўнейшых, дарэвалюцыйных часах, калі нават паасобныя назвы вёсак — Махаеды, Караеды, Бясхлебічы — ярка, недвухсэнсоўна сведчылі аб незайздросным жыцці беларусаў.

Даўно адышлі ў нябыт тыя далёкія часы. Ужо сцёрліся ў памяці некаторыя старыя назвы вёсак, назвы, якія абражалі чалавечую і нацыянальную годнасць беларуса. Гэтыя назвы замянілі іншымі. Калі беларусы яшчэ карыстаюцца часткова і прывозным хлебам, дык недалёк ужо той час, калі рэспубліка поўнасцю забяспечыць сябе хлебам са свайго поля. Парукай і сведкай гэтаму важкія цэнтнеры ўраджаю першага года новай пяцігодкі.

21 цэнтнер! Кажуць, што паэзія не вельмі любіць лічбы. Гэта не зусім верна. У канкрэтнай лічбе — 21 — знайшла сваё месца найчысцейшая і найпрыгажэйшая паэзія нашага сучаснага жыцця. Гэта казачны рост — далёкі яшчэ ад завяршэння — творчых магчымасцей народа, сведчанне сілы і магутнасці нашай сацыяльнай сістэмы. У гэтай лічбе як бы скандэнсавалася бязмежная воля і энергія партыі, уся тытанічная праца народа, уздым яго навукі, культуры, росквіт яго стваральнай практыкі. Гэтыя ўздым і росквіт сапраўды вялікія. Пра іх сведчаць і Дзяржаўныя прэміі СССР за 1971 год, прысуджаныя паасобным калектывам навуковых, тэхнічных і мастацкіх працаўнікоў. Сярод іх — аршанскія канструктары і будаўнікі шліфавальных станкоў высокай і асабліва высокай дакладнасці, канструктары і будаўнікі уніфікаваных трактараў «Беларусь», вялікая група беларускіх вучоных-лінгвістаў, архітэктары і будаўнікі эксперыментальна-паказальнага пасёлка Верцялішкі. Сярод лаўрэатаў бачым мы і імя акадэміка Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага. Яго даследаванне па геалагічным абгрунтаванні праектаў дзяржаўных электрычных станцый на Волзе, Каме, Дняпры і Доне мімаволі выклікае некаторыя асацыяцыі гістарычна-літаратурнага парадку. Нядаўна мы адзначылі выдатны юбілей Някрасава. Мы прыгадвалі яго радкі пра Волгу, любімую раку паэта, якую ён некалі з горыччу назваў «рекою рабства и тоски». Але паэт быў рэвалюцыянерам. Ён прадбачыў лепшыя часы, лепшую будучыню Волгі, калі

> ...Освобожденный от оков,
> Народ неутомимый
> Созреет, густо заселит
> Прибрежные пустыни;
> Наука воды углубит:
> По гладкой их равнине
> Суда гиганты побегут
> Несметною толпою,
> И будет вечен бодрый труд
> Над вечною рекою...

Гэтыя словы былі прарочыя. Яны як бы прадбачылі тыя гіганцкія змены, сацыялістычныя пераўтварэнні, якія адбыліся на неабсяжных прасторах былой царскай Расіі. Гэтыя змены і пераўтварэнні рабіліся агульнымі нястомнымі намаганнямі ўсіх народаў, некалі насяляўшых Расію і пабудаваўшых магутную дзяржаву — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, надзейную апору міру і прагрэсу ўсяго чалавецтва. Ва ўсіх гэтых пераўтварэннях актыўны ўдзел прымаў і беларускі народ.

Шмат дасягненняў мелі мы за прайшоўшы год у гаспадарцы народа, у культурным будаўніцтве. Значнымі прыкметамі нашага росту з'явіліся пяцідзесяцігадовыя юбілеі такіх вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі, як наш Беларускі дзяржаўны універсітэт і медыцынскі інстытут. Мы адзначылі стагоддзе з дня заснавання Беларускай чыгункі. Пэўнай адзнакай росту і росквіту беларускай мастацкай літаратуры з'яўляюцца і праведзеныя ў гэтым годзе шматлікія юбілеі пісьменнікаў, артыстаў, вучоных, мастакоў і іншых дзеячоў рэспублікі.

Значна папоўніліся за апошнія гады шэрагі рабочага класа, выраслі кадры перадавікоў і наватараў сельскай гаспадаркі. Папоўніліся новымі, маладымі кадрамі атрады вучоных, інжынерна-тэхнічных работнікаў, літаратараў, артыстаў, музыкантаў, мастакоў, педагогаў і ўрачоў. Усе гэтыя разнастайныя і шматлікія факты — яркае сведчанне таго, як далёка і назаўсёды беларускі народ адышоў ад свайго цяжкага і непрыглядннага мінулага, ад «хлеба з мякінаю», ад славутай «іржавай лапаты», пра што пісаў Някрасаў, прыгадваючы беларусаў у сваіх творах.

Народ упэўнена ідзе па надзейным, ленінскім шляху, па шляху, які вядзе да камунізма. Вялікіх яму поспехаў і перамог!

---

# УПЭЎНЕНАСЦЬ, НАТХНЕННЕ, ВЕРА...

**Аляксей КУЛАКОЎСКІ,**
сакратар партбюро Саюза пісьменнікаў БССР.

ПЕРАД Новым годам мне давялося прысутнічаць на сходзе партыйнага актыву Мінска. Я ўважліва слухаў даклад кандыдата ў члены Палітбюро ЦК КПСС, першага сакратара ЦК КПБ тав. П. М. Машэрава аб выніках лістападаўскага (1971 г.) Пленума ЦК КПСС. Перад маімі вачыма неяк асабліва выразна і пераканальна паўставалі тыя вялікія поспехі, якіх дасягнула наша рэспубліка ў першым годзе новай пяцігодкі. У той жа час яскрава ўяўляліся мне і грандыёзныя перспектывы развіцця нашай народнай гаспадаркі, культуры, навукі ў надыходзячым годзе і ў наступных гадах дзевятага пяцігоддзя.

Я думаў пра гэта і радаваўся, ўяўляючы, як імкліва і ўпэўнена крочыць наперад уся наша слаўная краіна, якіх вышынь ва ўсіх галінах і сферах жыцця дасягне яна ў наступныя гады, якія натхняльныя перспектывы раскрываюцца перад усімі нашымі рэспублікамі, перад усім савецкім народам.

Думаючы пра пачэсныя здабыткі нашага народа ў гаспадарчых, тэхнічных, навуковых справах, нельга не звярнуць увагу і на тое, што найбольш блізка самому, — на літаратуру і мастацтва. У гэтай важнай галіне духоўнага жыцця народа таксама ёсць значныя поспехі і дасягненні. Гэта відаць нават з асобных прыкладаў па нашай рэспубліцы, па нашым Саюзе пісьменнікаў. Мінулы год прынёс нам добрыя паказчыкі ва ўсіх жанрах мастацкай літаратуры: у прозе, у паэзіі, драматургіі, крытыцы, дзіцячай літаратуры. Беларуская проза абагацілася новымі значнымі раманамі Івана Шамякіна, Івана Чыгрынава, Алеся Асіпенкі, Івана Мялы, аповесцямі Алеся Савіцкага, Васіля Быкава, Анатоля Кудраўца, Віктара Карамазава і новымі творамі многіх іншых аўтараў. У драматургіі мы маем новыя п'есы Андрэя Макаёнка, Анатоля Дзялендзіка, Аркадзя Маўзона, Міколы Матукоўскага, аднаактоўкі Алеся Махнача, тэлевізійныя і кінастужкі Івана Новікава і Івана Чыгрынава, Алеся Асіпенкі і іншых пісьменнікаў. З'явіліся значныя работы ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства, ёсць пэўны крок наперад і ў нашай літаратуры для дзяцей, і ў нашай перакладчыцкай дзейнасці.

Падводзячы вынікі сваіх працоўных намаганняў за мінулы год, усе савецкія людзі самым сур'ёзным чынам задумваюцца і над сваімі пачэснымі абавязкамі і перспектывамі на бліжэйшы год і на наступныя гады пяцігодкі. Задумваемся і мы, працаўнікі беларускай літаратуры. Якія ні былі б нашы поспехі, дасягненні за мінулы год, а наперадзе ўсім відна яшчэ большая работа, яшчэ больш складаныя, хоць і вельмі пачэсныя абавязкі паўстаюць перад намі.

Нядаўна ў нас адбылося пашыранае пасяджэнне партбюро з удзелам усіх кіраўнікоў творчых секцый. Слухаліся справаздачы і планы на будучае секцый прозы і дзіцячай літаратуры. На гэтай глебе разгарнуўся шырокі і грунтоўны абмен думкамі аб тым, што ў нас ужо ёсць і што трэба яшчэ зрабіць, да чаго імкнёмся агульнымі намаганнямі ўсяго творчага калектыву.

Члены партбюро Максім Танк, Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, Аляксей Русецкі, камуністы, кіраўнікі секцый Янка Скрыган, Васіль Хомчанка зусім слушна адзначылі, што ў новым годзе нам неабходна будзе ўзняць яшчэ на больш высокі ўзровень нашу арганізацыйную, масава-палітычную і творчую дзейнасць, дамагацца большай канкрэтнасці, планавасці і перспектыўнасці ў рабоце праўлення Саюза, прэзідыума і ўсіх нашых творчых звенняў.

У нашы прадуманыя, своечасовыя арганізацыйныя мерапрыемствы ўваходзяць і нашы сустрэчы з чытачамі рэспублікі, і міжрэспубліканскія і міжнародныя сувязі, кантакты з рабочымі, калгаснікамі, інтэлігенцыяй, нашы гаспадарча-бытавыя клопаты — усё гэта не павінна набываць характар нейкай фармальнай дзейнасці, а заўсёды служыць адной найбольш важнай мэце — павышэнню творчай актыўнасці пісьменнікаў.

Самая важная наша задача на бліжэйшую перспектыву — зрабіць рашучы, арганічна і псіхалагічна падрыхтаваны паварот пісьменніцкага калектыву на творчае асэнсаванне і вырашэнне глыбокіх і надзённых тэм сучаснасці. Вельмі і вельмі трэба нам як мага хутчэй пераадолець сваю недаравальную інертнасць у падыходзе да тэм жыцця і шматграннай дзейнасці вытворчых калектываў нашых фабрык і заводаў, нашай сельскай гаспадаркі. І не толькі газетныя, часам вельмі скараспелыя, нарысы і замалёўкі павінны з'яўляцца на гэтыя тэмы, але і шырокія мастацкія палотны, з глыбінным і грунтоўным бачаннем і разуменнем тых вялікіх праблем і перспектыў развіцця, якія выспяваюць у нашым сучасным грамадстве.

Канечне, гэтага з налёту не возьмеш, наспех не вырашыш. Зразумець і творча асэнсаваць душу сучаснага працаўніка, вялікага грамадзяніна нашай вялікай і слаўнай Радзімы — справа нялёгкая. Нават знешне цяперашні рабочы, калгаснік, інтэлігент зусім не падобны на тых, якімі асталіся ў нашым уяўленні па мінулых часах і па класічнай літаратуры. Адбылася значная нівеліроўка знешніх атрыбутаў у нашым грамадстве: і рабочы, і калгаснік, і інтэлігент носяць аднолькава добрую адзежу і нават моды прытрымліваюцца той самай. Кожны мае добрую кватэру прыкладна з аднолькавымі прадметамі побыту: электрасвятлом, газам, радыё, тэлевізарам. Ледзь не ў кожнага матацыкл або аўтамашына.

І ўсё ж душы, характары ў людзей розныя. Разабрацца ў гэтым, дайсці да поўнага разумення і творчага ўспрымання ўсіх духоўных патрэб, імкненняў, жаданняў і мэт гэтых людзей можна толькі шляхам самага стараннага вывучэння іх жыцця і іх штодзённай стваральнай дзейнасці.

Мы ўпэўнены, што новы год прынясе нам дастаткова творчага натхнення, рашучасці і настойлівасці, каб паспяхова вырашыць гэтую пачэсную задачу.

# ГОД МІНУЛЫ І ГОД БУДУЧЫ

*Мінае 1971 год — год, адзначаны гістарычнымі рашэннямі XXIV з'езда КПСС, стваральнай працай савецкага народа. Гэта быў год новых здзяйсненняў ва ўсіх сферах жыцця нашага грамадства. Поруч з рабочымі і калгаснікамі плённа працавала савецкая творчая інтэлігенцыя. А наперадзе—новыя шырокія далягляды, новыя велічныя здабыткі.*

*На парозе новага, 1972, года штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» звярнуўся да дзеячоў нашай культуры і мастацтва з пытаннямі святочнай анкеты:*

*1. Год мінулы — якім ён быў для Вас, які Ваш творчы набытак?*

*2. З чым звязваеце Вы свае творчыя клопаты ў наступным годзе?*

*3. Якія творы калег прывабілі вашу ўвагу?*

*Якія новыя імёны ў нашай літаратуры і мастацтве вы маглі б адзначыць?*

*Нам адказалі...*

## Іван ШАМЯКІН



— Год мінулы быў для мяне памятны і крыху як бы святочны: у пачатку яго я адзначыў сваё 50-годдзе.

Не лічу любую дату ў жыцці нечым незвычайным і радасным, але станоўчае ў юбілеях тое, што яны прымушаюць чалавека падвесці вынікі сваёй працы і жыцця. Вынікі працы пісьменніка падрахоўвае не толькі ён сам, але чытачы, сябры па пяры — грамадскасць. Гэта ўжо нешта накшталт рэвізіі. А ўсялякая рэвізія прымушае сур'ёзна задумацца над падрахункам і зрабіць адпаведныя вывады.

Пераступаючы гэты парог — 50 гадоў, адчуваеш, што як бы ўзышоў на іншае поле, дзе мусіш араць лепш — на ўзроўні сучаснай агратэхнікі, сеяць гатунковым насеннем і збіраць багацейшы ўраджай.

Першае паўгода пайшло на роздум. Улетку сеў за рабочы стол, раскрыў папку, на якой даўно напісаў «новы раман», але ў якой доўга ляжала чыстая папера. Працавалася, асабліва ўвосень, добра. Падмурак і сцены раслі хутка, хоць матэрыял новы, нязвычны і моцна супраціўляецца. Героі — нашы сучаснікі, людзі, якія будуюць горад і новае, сацыялістычнае жыццё ў ім.

Безумоўна, хачу, мару, каб новы год — 1972 — даў магчымасць з поўнай аддачай працаваць над раманам. Кажу «мару» таму, што мне гэта не заўсёды ўдаецца з-за маіх службовых і грамадскіх абавязкаў. Акрамя таго, часам узнікаюць іншыя творчыя праблемы. Напрыклад, у самым пачатку года прыйдзецца, відаць, заняцца «даводкай» інсцэніроўкі рамана «Снежныя зімы», якую мы з рэжысёрам Барысам Луцэнкам робім для тэатра Янкі Купалы. Магчыма, патрабуе нейкага часу і п'еса, якую напісаў год назад.

Не магу сказаць, што год мінулы ў жанры прозы быў вельмі плённы. Усе разам — добрая сотня празаікаў — мы маглі б зрабіць больш і лепш. З раманаў і аповесцяў, што апублікаваны ў нашых часопісах, я з цікавасцю прачытаў «Непрыкаяны маладзік» А. Асіпенкі, «Абеліск» В. Быкава. Паэты сцвярджаюць, што ў іх ураджай багацейшы. Прымаю на веру. З паэзіі на мяне добрае ўражанне зрабілі «Славянскія баляды» Я. Сіпакова ў снежаньскім нумары «Полымя». Радуюць поспехі драматургаў, асабліва апошнія п'есы А. Макаёнка і М. Матукоўскага.

Жадаю, каб новы год даў больш творчых удач, мастацкіх адкрыццяў.

## Піліп ПЕСТРАК



— Год мінулы быў для мяне цяжкім, напоўненым клопатам навокал майго новага рамана «Лесавічанка». Праблемным стала пытанне — як закончыць раман: ці трымацца дакументальнасці падзей, ці аддацца на волю выключна мастацкага домыслу. Дзеля гэтага трэба было адведаць адну партызанскую мясціну на Віцебшчыне. Гэтага мне зрабіць не ўдалося і таму рух рамана спыніўся, хоць не зусім. Думка па ўнутранай логіцы рамана дайшла да некаторых вырашэнняў, якія я лічу ўдалымі. Засталося авалодаць фіналам, на гэтым і тлумачыцца мой клопат. Раман пашырыўся на чатыры часткі. Засталося дапісаць астатнюю чацвёртую частку. Здаецца, што ў рамане — у выніку роздуму — я дамогся арганічнага спалучэння рэальнасці і домыслу.

У перспектыве мне бачацца палескія балоты і змагары, якія іх асушваюць. Ужо даўно хочацца пра іх напісаць. Асушка Палесся разумеецца мною, як справа гістарычнай важнасці ў Беларусі, як пачатак новай эпохі ў гісторыі нашага землезнаўства і яго культуры.

На трэцяе пытанне мне адказаць цяжэй. Быў заняты сваёй працай і не змог прасачыць усе навінкі ў «Полымі», «Маладосці», «Беларусі». Удалося пазнаёміцца з раманамі «Мсціжы» Івана Пташнікава і «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава. Лічу гэтыя творы ўдалымі.

## Заір АЗГУР



— Трэба сказаць, што гэты год быў для мяне вельмі радасны. Здзейснілася дзесяцігадовая мара, я пачаў працаваць над помнікам Я. Коласу. Цяпер работа ў самым разгары. Зроблена чатыры галоўныя персанажы з помніка — дзед Талаш і сын яго Панас, Сымон-музыка і Ганна. Акрамя гэтай работы завершаны праект помніка майму добраму старому сябру Пятру Глебку. Зроблены партрэт вядомага беларускага мастака Бялыніцкага-Бірулі, партрэт двойчы Героя Савецкага Саюза выдатнага лётчыка-беларуса П. Галавачова. Працаваў я і над партрэтамі С. Грахоўскага, Р. Барадуліна. Сёння ў рабоце — партрэт У. Луцэвіч.

Гэты год прынёс мне яшчэ адну радасць. Я быў вельмі ўсхваляваны тым, што Савецкі ўрад узнагародзіў мяне ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі.

Сёлета з'явілася некалькі цікавых твораў літаратуры і мастацтва. Але самае яркае ўражанне ў мяне засталося ад п'ес А. Макаёнка «Зацюканы апостал» і «Трыбунал» і ад п'есы М. Матукоўскага «Амністыя».

Наогул, мне здаецца, наша мастацтва сёлета прынесла шмат новага, цесна звязанага з сённяшнім днём нашага народа. Гэта праявілася ва ўсіх відах мастацтва: і ў балеце, і ў оперы, і ў выяўленчым мастацтве, і ў самадзейнасці. Я з даўніх пор улюбёны ў беларускую паэзію. Але мне цяжка сказаць, якія з вершаў Танка, Куляшова, Пысіна, Барадуліна былі лепшыя ў гэтым годзе. Галоўнае тое, што гэтыя вершы сталі неад'емнай часткай жыцця нашага народа. І ў гэтым —сакрэт іх папулярнасці.

Мае планы на 1972 год — гэта, перш за ўсё, давесці да пастаноўкі на плошчы Якуба Коласа помнік цудоўнаму пісьменніку і чалавеку і яго героям.

Хацелася б, карыстаючыся выпадкам, пажадаць маім маладым калегам, тым, якія павінны пераняць эстафету ў нас, пасівелых, самага галоўнага для мастака — дамагацца такога майстэрства, якое звязала б іх з жыццём, з душой народа, з сучаснасцю. Таму ім трэба быць усебакова вельмі здаровымі і мець вялікае душэўнае хараство.

## Алесь САВІЦКІ



— Імклівы быў год. Здаецца, ён праляцеў больш хутка, чым усе папярэднія.

І вельмі адметны ў плане творчым. І зусім не таму, што надрукаваў у «Маладосці» новую аповесць «І нічога ўзамен», а ў выдавецтве «Беларусь» (таксама і ў Маскве на рускай мове) дакументальную аповесць пра Героя Сацыялістычнай Працы, сталявара Мінскага аўтазавода Дзмітрыя Іванавіча Барашкіна.

Я сустрэўся з героямі гэтай аповесці на канферэнцыі чытачоў. Раней даводзілася бачыць іх у працы, у цэху, а тут, па нейкім часе, яны былі ўжо чытачамі. Звычайна на канферэнцыі чытачоў не мінуць пытання: «З каго вы пісалі сваіх герояў?» На гэтай канферэнцыі такога пытання не ўзнікла. Героі кнігі побач. Мы сядзелі разам, за сталом канферэнцыі, і маладыя рабочыя ўрачыста ўручалі героям маёй аповесці кветкі, услаўлялі іх працу, захапляліся ёю, і я ўпершыню — з сілай хвалюючай і незвычайнай! — адчуў, што твая пісьменніцкая праца патрэбна людзям, убачыў гэта на свае вочы і неяк зусім па-новаму.

Звычайныя надзеі ўскладаю на новы год! Каб бачыць сонца, пачуць посвіст кнігавак над Дзвінскімі лазнякамі, плёскат начной вады, калі вухне хвастом сом у затоцы, пакратаць рукою сухія каласы і слухаць пошум спелай збажыны...

І яшчэ чыста пісьменніцкае ўжо: зайсці ў рэдакцыю «Полымя», пакласці на стол новы рукапіс і потым чакаць, што скажа Іван Пташнікаў...

Трэцяе пытанне пастаўлена **не зусім** правільна. Дакладней, мабыць, не «што з **твораў», а** «што ў творах». Прачытаў літаральна ўсё, **што** друкавалася (у першую чаргу «ЛіМ», вядома ж!) у нашых «тоўстых» і «тонкіх» часопісах. Ёсць—не спала ў шапку, як кажуць, наша мастацкае слова! — цікавага шмат! Але «як» тое цікавае зроблена — зусім (дарэчы, гэтым святочныя навагоднія анкеты не цікавяцца) ужо іншае, рабочае, пытанне.

## Ніл ГІЛЕВІЧ



— Працаваў, мабыць, як ніколі многа. Закончыў сатырычную драматызаваную паэму «Восем чалавек на адно месца». Падрыхтаваў новы зборнік сатыры і гумару «Русалка на Нарачы». З паэтам Алесем Разанавым закончылі і перадалі выдавецтву зборнік перакладаў класічнай балгарскай паэзіі «Хай будзе дзень!», у якім прадстаўлены 30 аўтараў. Закончыў падрыхтоўку і рэдагаванне зборніка беларускіх народных песень Міншчыны пад назвай «Песні сямі вёсак». Апублікаваў антываенную паэму «Недзяленя» і паэму «А дзе ж тая крынічанька?» — першую ў «Маладосці», другую — у «Полымі». А яшчэ — пісаў вершы, артыкулы, рэцэнзіі і інш.

Спадзяванняў асаблівых не маю. Хаця падрыхтаваў некалькі рукапісаў — да чытачоў у новым годзе нічога не трапіць. У выдавецтве «Беларусь» рукапіс новай кнігі вершаў і паэм ляжыць з восені 1970 года — сказалі пастаяць у чарзе: вельмі вялікі завоз мастацка дасканалай вершаванай прадукцыі! Адным словам, новы год буду стаяць у чарзе. Каб не нудзіцца, можа, і напішу што новае. Але—не ў галіне паэзіі. Ёсць жаданне паспрабаваць сілы ў іншых жанрах.

З беларускай паэзіі 1971 года дапала да душы апублікаваная ў «Полымі» паэма Васіля Зуёнка «Сяліба», з прозы — «Абеліск» Васіля Быкава і «Непрыкаяны маладзік» Алеся Асіпенкі. З сусветнай літаратуры — раман «Страшны суд» Благі Дзімітровай у перакладзе Уладзіміра Салаўхіна.

## Раман САБАЛЕНКА



— Пытаецеся ў мяне, чым быў, што даў мне прайшоўшы год? Перш за ўсё, ён даў не толькі мне, ён даў усяму нашаму народу, даў усяму чалавецтву XXIV з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. А гэта так многа і так значна, што цяпер, пасля векапомнага з'езда, кожны з нас, што б ён ні рабіў, куды б ён ні ішоў, звярае свой крок з арыенцірамі, якія вызначыў з'езд партыі. Мы смела, мы напорна крочым на тыя арыенціры, не баючыся, што зблудзім. Нам, камуністам, ды і ўсім савецкім людзям, тыя арыенціры будуць паказваць дарогу ў будучыню.

А што асабіста мне прынёс прайшоўшы год? Калі адказваць на гэтае пытанне ў плане асабістых літаратурных поспехаў, то я нічым асаблівым не магу пахваліцца. Аднак год для мяне не быў «гуляшчым». Я напісаў, мне здаецца, неблагі нарыс пра народнага артыста СССР Уладзіміра Дзядзюшку. Маю апавяданні і яшчэ сёе-тое з літаратурных здабыткаў.

У мінулым годзе я шмат думаў над вытокамі таго, што адбываецца ў нашым жыцці, і, мабыць, многае з таго, пра што думаў, зразумеў, як трэба, прыняў яго, як сваё роднае, а значыць і ў далейшым я не змоўчу пра тое, пра што думаў. А больш канкрэтна — гэта будуць новыя творы пра наш сённяшні вялікі дзень.

І яшчэ пра адно не магу змоўчаць: у сёлетнім годзе мяне ўзнагародзіў наш Савецкі ўрад ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

На апошняе пытанне адказваць цяжка. Я люблю тое, што імпануе майму густу. І таму гавару: мне вельмі спадабаўся раман Алеся Асіпенкі «Непрыкаяны маладзік». Чытаў і зайздросціў аўтару — яго ўмельству гэтак зірнуць на жыццё. У дадзеным выпадку такую творчую зайздрасць можна дараваць сабе: яна карысна, яна, калі хочаце, своеасаблівы «рухавік унутранага згарання».

Я мог бы назваць аповесць Васіля Быкава «Абеліск», цвярозы раман Алеся Якімовіча «Кастусь Каліноўскі», п'есу Міколы Матукоўскага «Амністыя» і яшчэ некаторыя творы паэзіі, прозы, драматургіі. Большасць добрых твораў дайшла да чытача. Няхай і ў новым годзе людзі іх чытаюць, захапляюцца імі. Разам з чытачамі я таксама буду радавацца.

## Яўген ГЛЕБАЎ



— Мінулы год быў шчаслівы для мяне. Я атрымаў Дзяржаўную прэмію за музыку да балета «Выбранніца» і араторыю «Свяці, зара». Закончыў новую сімфонію.

За год шмат прачытаў, пачуў, пабачыў. Але самай яркай, мне здаецца, была сустрэча са спектаклем тэатра імя Горкага «А зоры тут ціхія...» Уражанне проста незабыўнае. Што датычыць планаў, то наступны год будзе, відаць, прысвечаны рабоце над балетам «Ціль Уленшпігель».

## З НАВАПОЛАЦКАГА БЛАКНОТА

Да нядаўняга часу я пісаў пераважна сельскія краявіды. І ўвесь час хацелася паспрабаваць сілы ў адлюстраванні паэзіі і індустрыяльнага пейзажу. Таму і паехаў у Наваполацк — малады горад сучаснай індустрыі.

Першае ж уражанне — горад - прыгажун. Архітэктура — прастора і лёгкасць, падкрэсленыя прыгажуняй - ракой. Лёгкасць, хоць пастаўлены дзевяціпавярховыя гмахі... А вакол — лес!..

Фламасцерам у альбоме раблю накіды — наваполацкія плошчы, архітэктурныя ансамблі, стадыён, маляўнічыя куткі маладога горада.

А што казаць пра дзівосную сімфонію Нава-



Наваполацк.

# Іван ЧЫГРЫНАЎ



— Уласна, усё было зроблена на год раней. Гэта, калі гаварыць пра сёлетні творчы плён. Раман «Плач перапёлкі» скончаны і надрукаваны ў 1970 годзе. Чатыры серыі (з шасці альбо сямі) мастацкага фільма пра Мінскае падполле ў Айчынную вайну таксама створаны ў мінулым годзе, хоць і паказаны сёлетняй восенню. І ўсё ж работы — і ўнутранай, і знешняй — хапіла мне і ў 1971 годзе. Спярша хваляваўся, як будзе сустрэты раман чытачамі і літаратурнай крытыкай. Пасля «хадзіў па пакутах», калі можна сказаць так, каб замацавацца ў выдавецкім плане, а калі і з гэтым з дапамогаю добрых людзей стала добра, то з'явіўся новы клопат — як «давесці» раман да выдання, няхай нават на першай, але, бадай, самай коўзкай стадыі... Цяпер раман ужо адрэдагаваны і здадзены ў вытворчы аддзел. Такім чынам, можна лічыць, што год 1971 ўвогуле быў неблагі для мяне. Асабліва калі дадаць яшчэ, што раман прыняты ў часопісе «Дружба народов», то і зусім нявартa б, як кажуць, ні бога гнявіць, ні на людзей наракаць. Вось толькі мала давялося сядзець са спакойнай душой (у сэнсе творчай настраёвасці) за рабочым сталом над наступным раманам...

Цяпер цалкам жыву гэтым, новым раманам. Значыць, буду працаваць над ім і скрозь 1972 год.

У літаратурнай крытыцы, а больш у прыватных гаворках — вядома, шчырых і няшчырых — мне было нямала сказана, што «Плач перапёлкі» пакідае ўражанне незавершанасці. Можа гэта і так. Але як я сам разумею, то раман завершаны ў такой ступені, у якой ступені завершанасці ў жніўні сорак першага года былі трагічныя падзеі, пра якія ў ім апавядаецца. Тую задачу, якую ставіў перад сабой у рамане «Плач перапёлкі», я выканаў (добра ці блага) цалкам: адлюстраваў падзеі ў вёсцы і за вёскай у пачатку вайны, вывеў герояў на так званыя зыходныя рубяжы, даў кожнаму «сваё заданне», бо якраз вось гэта — выйсці на зыходны рубеж, мець пэўнае заданне — і было, можа, самым галоўным у тыя дні для некаторай (і немалой) часткі людзей. Усё ж іншае, што засталося за рамкамі рамана «Плач перапёлкі», належыць адлюстраваць у другіх творах. У асноўным новы раман будзе працягваць тую ж тэму — тэму Айчыннай вайны. Вядома, большасць герояў таксама пераходзіць з аднаго рамана ў другі. Але задуманы ва ўсім новы твор. Для яго ўжо нямала паездзіў сёлета, пагаварыў з людзьмі, пасядзеў у архівах...

Пра сябе гаварыць усё ж цяжка. Таму на трэцяе пытанне, з якім звярнуўся тыднёвік, адкажу з большай ахвотай, хоць і не ўсё яшчэ (маю на ўвазе прозу, каб не парушаць цэхавую прыналежнасць) прачытана. У літаратуры з набыткам, як і ў вясковай гаспадарцы з ураджаем, год на год не прыпадае, але ўжо зразумела, што беларуская проза ў 1971 годзе мела набытак раманам Алеся Асіпенкі «Непрыкаяны маладзік», аповесцю Васіля Быкава «Абеліск», аповесцю «У бары на світанні» і апавяданнямі Івана Навуменкі, апавяданнямі Вячаслава Адамчыка «Два злоты», «Калі ападае лісце», апавяданнем Уладзіміра Караткевіча «Былі ў мяне мядзведзі», апошнім апавяданнем з трыпціха Паўла Місько «Не ў явар, а ў камень...», апавяданнямі Алеся Наўроцкага ў «Маладосці» і «Немане» (дарэчы, у апошні час становіцца амаль ці не традыцыяй—дрэннай ці добрай?!— што некаторыя беларускія творы нават кнігі чамусьці спярша друкуюцца па-руску), апавяданнямі Барыса Сачанкі ў «Полымі»... Якраз гэтымі днямі пачаў чытаць цікавую аповесць Алеся Савіцкага «І нічога ўзамен». І ўжо зусім прыемна было сёлета сустрэць, бадай ужо дарослую «прозу маладых», у першую чаргу апавяданні Алеся Жука і Міхася Клебановіча, а таксама аповесць Вольгі Іпатавай «Прадыслава»... Такім чынам, у 1971 годзе было на каго раўняцца і было на каго азірацца.

# Кірыл ЦІХАНАЎ,

**дырыжор,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР і ТАССР,**



— Галоўнай падзеяй у жыцці Беларускага тэатра оперы і балета, а гэта значыць у маім жыцці, былі ў гэтым годзе гастролі ў Маскве. Другой значнай падзеяй я лічу для сябе выпуск оперы Рымскага-Корсакава «Залаты пеўнік».

Найбольшыя ўражанні года? Сустрэча з музыкай грузінскага кампазітара А. Тактакішвілі да оперы «Міндзія». Думаем паставіць яе на беларускай сцэне.

Пачаў работу над бессмяротным творам Глазунова «Раймонда».

# Дзмітрый БУГАЁЎ



— Развітваючыся са старым, 1971 годам, не магу не адзначыць, што ён характарызаваўся прыкметным узмацненнем грамадскай цікавасці да літаратурнай крытыкі. Для мяне вельмі важнымі былі дзве мінулагоднія нарады па актуальных праблемах крытыкі. Маю на ўвазе рэгіянальную нараду «Мастацкія пошукі ў літаратурах Савецкай Прыбалтыкі і задачы крытыкі» (праходзіла ў Рызе 17—19 лістапада) і сустрэчу ў Саюзе пісьменнікаў СССР, прысвечаную стану крытыкі ў рэспубліканскіх літаратурных часопісах (9—10 снежня). У часе апошняй мне давялося рабіць агляд крытычных і літаратуразнаўчых матэрыялаў у «Полымі». Паслухаўшы разумных людзей, яшчэ выразней адчуваеш, наколькі неабходныя нам агульнасаюзныя крытэрыі высокай эстэтычнай патрабавальнасці і бескампраміснай прынцыповасці ў ацэнцы літаратурных з'яў.

Што датычыць маіх уласных крытычных і літаратуразнаўчых прац за мінулы год, дык пра іх можна сказаць зусім коратка. Выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла ў свет кнігу «Зброяй сатыры, зброяй праўды», у якой разглядаецца творчасць Кандрата Крапівы. Не ведаю, як прыме гэтую кнігу чытач, але я пісаў яе з вялікай прыемнасцю. Так бывае заўсёды, калі дакранаешся да сапраўднага мастацтва. Артыкулы пра нашага выдатнага сатырыка друкаваліся і ў часопісах «Полымя», «Беларусь», у газетах «Ніва» (Беласток) і «Вестник федерации русских канадцев» (Канада). Раман М. Лобана «Гарадок Устронь» і кніга вершаў Я. Янішчыц «Снежныя грамніцы» аналізуюцца ў артыкулах «Андрэй Шэмет, яго сябры і праціўнікі» і «Паэзія пачынаецца з любові», якія друкаваліся ў «Полымі». Можна было б згадаць яшчэ некалькі дробных нататак, але ўсё роўна атрымліваецца не густа—шмат часу і сіл забірае выкладчыцкая праца ў БДУ імя У. І. Леніна.

У наступным годзе таксама, відаць, будуць асобныя выступленні ў перыядычным друку. Але асноўнай павінна стаць праца над падручнікам па гісторыі беларускай савецкай літаратуры для студэнтаў-філолагаў. Пакуль што гэтая праца ідзе вельмі марудна. Звязана гэта з многімі прычынамі, аднак гаворка пра іх мала стасуецца з навагоднім настроем.

Што з літаратурнай прадукцыі мінулага года найбольш запомнілася? Некаторымі рысамі ўразіў раман амерыканскага пісьменніка А. Хейлі «Аэрапорт», запомніўся апублікаваны пасмяротна раман Рэмарка «Цені ў раю» (абодва—у «Иностранной литературе»), літаральна здзівіў сваёй нечаканай актуальнасцю артыкул-роздум Д. Граніна «Свяшчэнны дар» («Новый мир», № 11). З беларускай літаратуры ў мінулым годзе таксама друкавалася нямала змястоўных і ў шмат якіх адносінах цікавых твораў. Але найбольшае ўражанне пакінулі аповесць В. Быкава «Абеліск», новыя вершы М. Танка, А. Пысіна і Я. Янішчыц. Хачу асабліва падкрэсліць, што на яркі талент Яўгеніі Янішчыц я ўскладаю вялікія надзеі. Кажу гэта з усведамленнем усёй адказнасці, якую прыходзіцца браць на сябе, калі гаворка ідзе пра маладога літаратара. Некалькі добрых апавяданняў апублікаваў у мінулым годзе Алесь Жук. Яны дазваляюць спадзявацца, што з цягам часу гэты аўтар можа вырасці ў арыгінальнага і вельмі сур'ёзнага празаіка.

# Віктар КРАМАРЭНКА,

**архітэктар**



— Што было для мяне самым памятным у гэтым годзе.. Па-першае, тое, што я стаў членам Саюза архітэктараў СССР. А гэта, як вядома, абавязвае. Па-другое, атрымаў права на распрацоўку будынка Бабруйскага драматычнага тэатра. Ужо зроблены рабочыя чарцяжы і хутка будынак будзе ўзводзіцца. Я паспрабаваў вырашыць яго незвычайна, у стылі сучаснай готыкі (дарэчы, вельмі люблю готыку). Хацелася б, каб гэта быў максімальна прыстасаваны да мастацтва тэатра, зручны, утульны будынак, каб чалавек, які толькі падыходзіць да яго, ужо жыў будучай сустрэчай з тэатрам. Пры ўваходзе мы робім роспіс, у які ўключаны элементы беларускага нацыянальнага арнаменту і сцэны з прадстаўленняў беларускіх вандроўных артыстаў — скамарохаў.

Акрамя Бабруйскага тэатра ў гэтым годзе быў прыняты яшчэ адзін мой праект — танцавальная веранда ў парку Чалюскінцаў. Разам з С. Філімонавым мы пастараліся зрабіць яе так, каб захаваць найбольшую колькасць дрэў, каб на гэтай верандзе можна было з задавальненнем адпачыць.

Бадай, самай цікавай сустрэчай з мастацтвам у гэтым годзе было для мяне супрацоўніцтва з мастаком Яўгенам Карманавым. Мінчане добра ведаюць яго работы — ён адзін з аўтараў папулярнага рэстарана «Журавінка». Гэта мастак-манументаліст, які працуе ў галіне архітэктуры. Мастак разумны, з ім цікава і карысна працаваць. Ён адкрыў для мяне нямала новага ў разуменні архітэктуры. Мы працуем з ім над праектамі тэатра ў Бабруйску і танцавальнай веранды.

Мае планы перш за ўсё звязаны, вядома, з архітэктурай, якую незвычайна люблю. За тры гады пасля інстытута я толькі праектаваў, а ў 1972 годзе, нарэшце, убачу свае праекты ў натуры. І хацелася б, каб сустрэча з гэтымі аб'ектамі, была прыемнай для тых людзей, якія будуць імі карыстацца.

---

полацкага гіганта хіміі. Тут для графіка — сапраўды раздолле. Бясконцыя перспектывы, марсіянскія хітраспляценні вертыкальных і гарызантальных установак і іх дэталяў. Пасля прывычных для мяне матываў з лесам, полем тутэйшыя «пейзажы» літаральна ашаламілі. Спрабаваў авалодаць імі з дапамогаю і акварэлі, і фламасцера, і алоўка.

Сапраўды, разнастайныя крэкінгі і агрэгаты на пленэры — гэта вельмі прыгожа. І перадаць гэтую прыгажосць няпроста. А яшчэ складаней адлюстраваць тут чалавека. Людзей тут працуе многа, але іх амаль не сустракаеш. Усё ўнутры цэхаў — быццам часавы механізм, зладжаны, выверaны. Людзей — наладчыкаў, апаратараў — бачыш не так многа. Я гутарыў з наладчыкамі — вясёлыя, працалюбівыя людзі. З цікаўнасцю аднесліся да маёй работы.

Ужо сёння, пераглядаючы створанае ў Наваполацку ў часе творчай камандзіроўкі, бачу: зроблена мала. Некаторыя з работ прапаную ўвазе чытачоў «Літаратуры і мастацтва».

Пісаў у часе паездкі і пейзажы ваколіц Наваполацка і Полацка. Зрабіў замалёўкі ў самім Полацку.

Вось і цяпер перад вачыма славутая Сафійка. Сапраўды гармонія, сапраўды суразмернасць у прасторы. Яна лёгкая, прыгожая і на блізкай адлегласці, і на далёкай — у некалькі кіламетраў.

І вось гэтая старадаўняя прыгажосць, і новая, якая нараджаецца сёння, пераконваюць, што мы, мастакі, яшчэ не здолелі як след асэнсаваць іх. Ды і зрабіць гэта не проста.

Вось чаму, як толькі прывяду ў парадак матэрыялы з паездкі, адразу ж адпраўлюся ў новую. І — зноў у Наваполацк. Ён цягне да сябе, быццам магнітам.

**Анатоль ТКАЧОНАК.**



Дарога праз саўгас.



Сафійскі сабор. Полацк. (XII стагоддзе).



Між лясоў.

На водопой, по нарывам кочек,
Он продвигался — обломок ночи,

Не замечая, как на востоке
Мокрой зари проступают соки;

Как над стеной камышовых щеток
Утро восходит из птичьих глоток;

Как в очерете тайно и сладко
Ноет болотная лихорадка...

. . . . . .

Время пришло стволам вороненым
Правду свою показать затонам...

У Мінск вярнуўся задаволены паляваннем.

А там ужо афіша абвяшчала пра яго выступленне.

У плане даклада ён намеціў размову пра Маякоўскага і Хлебнікава, Ахматаву і Асеева і, вядома, пра інжынераў сюжэта — канструктывістаў, да якіх у тыя дні сам фармальна належаў.

Летнім адвячоркам ён выступаў у гарадскім садзе імя Прафінтэрна. Народ сабраўся цікавы. Гэта ён адчуў адразу ж па ўвазе аўдыторыі, а потым па пытаннях.

Але самае светлае, што павёз з сабой, была сустрэча з вершамі Янкі Купалы.

Тады і вырашыў узяцца за пераклады. Для пачатку выбраў «Дзве таполі».

І вось ужо тры гады прашалясцелі, нібы лісты над галавой.

Нядаўна спаткаліся з Янкам у Маскве, як старыя добрыя сябры.

— Пра ваш пераклад я даведаўся неяк нечакана, — расказваў Купала. — Раптам таварышы з Масквы віншуюць: «Харошыя ты вершы напісаў». — «Якія вершы?» — пытаю па тэлефоне. Адказваюць: «Дзве бярозы». Але я такога верша не пісаў... І вось прысылаюць мне ваш пераклад. Многа слоў не маіх, а верш мой.

— Вы разумееце, Іван Дамінікавіч, — збянтэжана, нібы просячы прабачэння, высвятляў Багрыцкі, — я адчуў, што душа і, значыцца, сэнс верша страцяцца, калі проста перасадзіць таполі на рускую зямлю. Не зразумее рускі чытач таполінай журбы... А ў вас так задушэўна атрымалася таму, што таполі вам, як родныя, блізкія людзі. А мне бярозы бліжэй!.. Прачытаў я ваш верш раз, другі, выйшаў у Кунцаве да мастка над ярам, да бярозак, яшчэ раз прачытаў — вельмі падобна, вось і пераклаў... Вы ўжо не крыўдуйце...

— Ды за што ж тут крыўдаваць? Памятаеце, у Аляксея Канстанцінавіча Талстога добра сказана, што галоўнае ў перакладзе — настрой, падтэкст, унутраны змест. Усё гэта вы захавалі і да чытача данеслі... Дзякуй вам!..

І Купала прачытаў па-руску:

За околицей в грозы две стояли березы,
Как одна две березы стояли,
И стонали сквозь слезы, истлевая, березы,
Как одна две березы стонали.

Гэты пераклад быў зроблены тады, калі на рускай мове выходзіў зборнік беларускага паэта, і Багрыцкага падганяла выдавецтва.

— Што ж гэта вы так зацягнулі, Эдуард Георгіевіч? — пытаў рэдактар. — Кнігу трэба здаваць у набор. За вамі апошнія радкі...

Але калі Багрыцкі прачытаў яму Купалавых «Паязджан», ён згадзіўся пачакаць яшчэ тры дні і ўсё паўтараў апошнія радкі верша:

А над нами завируха,
Поползунья, злобедуха,
Раскачнулась снежной вехой,
Задыхается от смеха.

Тэрмін набліжаўся. Заўтра трэба было здаваць апошні Купалаў верш. Зноў і зноў Багрыцкі перачытваў беларускія словы і ладзіў свой радок:

И ветки хотят наклониться,
И вереск трещит под ногой;
Вот-вот за цветок ухватиться
Готовишься слабой рукой...
Ан нет! Гаснут звездные светы,
Откликнулся петел в селе,
Ни ночи купальской, ни цвета, —
Все сгибло, пропало во мгле.

Ён біўся над перакладам да поўначы. І ўсё-такі прымусіў папараць заквітнець.

Нябачаным агеньчыкам успыхнула кветка.

І зноў згасла.

Толькі на адно імгненне ўбачыў яе Багрыцкі. Таму што мара меж не мае. І няма канца пошукам і натхненню.

г. Віцебск.

# ПАМЯЦІ «ЦЁЦІ ЎЛАДЗІ»

Грамадскасць рэспублікі адзначыла 80-годдзе з дня нараджэння Ул. Ф. Луцэвіч. 25 снежня на радзіме Уладзіславы Францаўны ў Вішнеўскай сярэдняй школе (Валожынскі раён) сабраліся яе землякі, сюды прыехалі беларускія пісьменнікі, супрацоўнікі музея Я. Купалы.

Вечар адкрыў дырэктар школы В. Шаўнюк. Пра жыццёвы і творчы шлях Уладзіславы Францаўны гаварыла галоўны захавальнік фондаў музея паэта Я. Раманоўская. З цікавасцю слухалі землякі цёці Уладзі ўспаміны аб ёй пісьменнікаў Янкі Брыля і Сяргея Грахоўскага. Свае вершы прачыталі Хведар Чэрня — выпускнік Вішнеўскай школы, Сяргей Грахоўскі, Пятро Бітэль—настаўнік школы.

Вялікі вечар памяці Ул. Ф. Луцэвіч адбыўся ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Адкрыў вечар сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іван Шамякін. Аб жыццёвым шляху Уладзіславы Францаўны, аб яе нястомнай дзейнасці па стварэнні музея паэта расказаў Уладзімір Юрэвіч. Сардэчна і цёпла гаварылі пра «цёцю Уладзю» яе сябры М. Осіпава, П. Мядзёлка, З. Азгур, П. Кавалёў, Э. Агняцвет, Р. Няхай, П. Прыходзька, Л. Камоцкая і інш.

У Доме Купалы гучалі вершы, прысвечаныя Уладзіславе Францаўне, беларускія песні, якія яна асабліва любіла, вершы самой цёці Уладзі, адрасаваныя дзецям.

У заключэнне адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел артысты сталічных тэатраў, студэнты Мінскага педінстытута, дзеці з Палаца піянераў.

**Т. ТАРАСАВА.**

# СЕМІНАР ЛІТАРАТАРАЎ ВІЦЕБШЧЫНЫ

Днямі ў Віцебску адбыўся творчы семінар літаратараў вобласці, скліканы абласным аб'яднаннем сумесна з Домам народнай творчасці. У ім прымала ўдзел каля 30 аўтараў з Полацка, Оршы, з іншых гарадоў і раёнаў вобласці. З аналізам работы раённых літаратурных аб'яднанняў і творчасці маладых літаратараў Віцебшчыны выступіў кіраўнік семінара паэт Давід Сімановіч.

Семінар падвёў вынікі работы абласнога літаратурнага аб'яднання за год.

номіяй». Не можа не пакарыць сэрца дзіцяці зайка, што ехаў «краем лесу», якому «нягодніца-лісіца палку торкнула ў спіцы», з-за чаго «аб таўшчэзнае палена бедны зайка збіў калена». Але перамога ўсё ж за дабрадзейнасцю. На дапамогу зайчыку прыходзіць мядзведзь. І мілы, добры зайка не хоча застацца ў даўгу перад мядзведзем. Ён на дабро адказвае дабром — «як направіць самакат, падвязе мядзведзянят» («Самакат»).

Паэт размаўляе з маленькімі мовай эмоцый, мараль у яго не ў словах, а ў прыкладах. І дапамагае гэтаму гумар — светлы і лагодны, які ёсць амаль ва ўсіх творах С. Шушкевіча. Казкі паэта «Камар-брынкун і жаба-квакуха», «Як у лесе ды пад дубам...», «Хворы жораў», а таксама «Казка пра лісу-хітруху і добрых сяброў — мядзведзя, зайца і пеўніка» нясуць у сабе багаты пазнавальны матэрыял, які трапна падаецца ў вясёлай форме.

Відаць, многія нашы вучні ведаюць верш-жарт «Танцавалі ў сшытку кляксы...», у якім надзвычай паэтычна вырашаецца важная педагагічная праблема — кожны школьнік павінен быць акуратны, вучыцца толькі на добра і выдатна:

Танцавалі ў сшытку кляксы
Ад чарніла і ад ваксы,
Танцавалі, прысядалі,
Двойку ў госці запрашалі,
Кажа двойка: — Не пайду,
Лепш сястрыцу прывяду!..
І, дугой сагнуўшы спінку,
Прывяла сястра-адзінку.

Імя С. Шушкевіча добра вядома ў нашай рэспубліцы і за яе межамі і як цудоўнага дзіцячага паэта-песенніка. Беларускімі і ўкраінскімі кампазітарамі на музыку пакладзена больш за два дзесяткі вершаў паэта. Асабліва вялікай папулярнасцю сярод дзяцей карыстаюцца песні «Дружны клас», «Лясная калыханка», «Павучок-мухаед», «Ліса і Курка», «Пайшоў коўзацца каток», «Сарочы церамок», а песня «Мы на змену ідзём» стала ледзь не гімнам беларускіх піянераў.

Многія вершы і казкі паэта перакладзены на рускую, украінскую, літоўскую, латышскую, узбекскую і яўрэйскую мовы.

Гэта — заслужаная папулярнасць. Паэт здабыў прызнанне ў самых строгіх і непадкупных чытачоў.

**Р. ЛІТВІНАЎ.**

г. Гомель.



ХОЦЬ СЕЛЕТА І БЯССНЕЖНА, АЛЕ ЁСЦЬ І ТАКІЯ КУТКІ...

Мал. А. САПЕТКІ.

АДВЕЧНАЕ

# РУПЛІВІЦА

Неяк давялося мне быць у камандзіроўцы. Аўтобус, быццам баючыся спазніцца, шпарка імчаў па асфальце.

Мінулі Валяр'яны, Слуцк, а там і самы горад Старыя Дарогі, мой апошні пункт. Мне трэба сустрэцца з юнымі інтэрнацыяналістамі, якія збіраюць лекавыя травы для дзяцей шпіталя Ханоя. Дарэчы, Старадарожскі раён у гэтым займаў летась першае месца ў вобласці.

Вось і школа. Знаёмлюся з дзецьмі. Расказваюць пра свае справы, пра лекавыя травы, называюць перадавікоў.

А тым часам надышла ноч. Адзін настаўнік прапанаваў мне знайсці месца для начлегу. Прайшлі некалькі крокаў. Дом. Праз вокны льецца на вуліцу святло. Заходзім.

— Прывёў начлежніка, Кацярына Максімаўна.

— Калі ласка. Для добрага чалавека ў нас заўсёды знойдзецца месца, — адказала гаспадыня.

Гэта невысокая, рухавая, пажылая жанчына.

Саджуся, знаёмлюся.

Гаспадыня ўключае люстру. Разліваецца святло, і пакой ператвараецца ў нейкую маленькую выстаўку-музей.

На сценах ручнікі, аздобленыя разнастайнымі ўзорамі, на ложках коўдры, а над імі дываны; на канапе паркалёвы чахол, на падушках — накрыўкі. На стале абрус пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі. Прыгожыя сурвэткі. На падлозе ходнічкі.

І на ўсіх гэтых цудоўных рэчах, вытканых, звязаных — вышытыя кветкі, птушкі, зверкі, лісце, дрэвы, матылькі. Маё захапленне зрабіла на гаспадыню ўражанне. Мы разгаварыліся.

Выбіраючы арнамент, Кацярына Максімаўна Русаковіч не капіруе, не шукае ўзораў у спецыяльных часопісах, кнігах. Яна бярэ іх з навакольнага жыцця. Выйдзе на поле, а там морам хвалюецца збажына, расцвітае бульбянік, а ўдалечыні губляецца белая коўдра грэчкі.

Пойдзе на луг, збочыць у лес па грыбы. Стаяць векавыя дрэвы, а на галінках шчабечуць птушкі; прабяжыць заяц або ліс, з дрэва на дрэва скокне вавёрка.

А па кветкі не трэба хадзіць далёка. Варта толькі пераступіць парог свайго дома. Навокал — прыгожы кветнік, добра дагледжаны дочкамі. Тут лашчаць вока хрызантэмы і язмен, флоксы і цюльпаны, нарцысы і лілеі, гладыёлусы і гваздзікі... І ўсё гэта рана ці позна знойдзе сабе месца ў яе работах.

І не толькі гэта. Самыя сучасныя прадметы — самалёты, танкі, камбайны, трактары ўводзіць Кацярына Максімаўна ў свае вышыўкі, інкрустацыі, ткацтва.

Багатая наша беларуская зямля на народных умельцаў. І вось Кацярына Русаковіч едзе да іх, цікавіцца, што можна запазычыць, скарыстаць у сваёй рабоце.

Колькі цярпення, а галоўнае кемлівасці трэба мець, каб выканаць такую работу, як інкрустацыя з саломкі на дыванах. Трэба асцярожна разрэзаць сцябло напалам, надаць яму патрэбны колер, наклеіць на тканіну, на якой папярэдне ўжо нарысаваны штрыхі ўзораў. Трэба мець тонкі густ, пільнае вока, каб падабраць адпаведны колер.

Глядзіш на такую рэч, і перад тваімі вачыма свеціцца, зіхаціць, здаецца, само серабро ці золата.

Добрае слова сказалі пра самадзейную мастачку, высокую ацэнку яе вырабам далі прафесійныя мастакі на выстаўцы Мінскага абласнога дома народнай творчасці. Грашовай прэміяй адзначана работа Кацярыны Максімаўны.

— Для мяне прэмія — не самае галоўнае, — гаворыць Кацярына Максімаўна. — Мне даражэй цёплае слова, упэўненасць у тым, што я прыношу радасць людзям.

Без стомы яна зноў рыхтуе эскізы дывана з новым узорам. Міне колькі часу, і ажывуць на тканіне кветкі, галінкі дрэў, птушкі і зверкі.

— Дзе вы вучыліся, ад каго пераймалі майстэрства? — пытаю я.

— Маці мая добра ткала, — гаворыць Кацярына Максімаўна. — Ад яе і вучылася.

— А вашы дочкі бяруць што-небудзь у вас?

— А як жа! — Кацярына Максімаўна паказвае вышытыя сарочкі, фартушкі, сурвэткі. — гэта ўсё яны, Галя, Маруся і Надзя зрабілі.

Я гляджу на рупную працу дзяўчат і думаю — як гэта добра, што жыве і перадаецца сённяшняму пакаленню прыгажосць, праз стагоддзі пранесеная народам...

**Г. ВІНАГРАДАЎ.**

# ДЗЕ КАЛЫШУЦЬ ДЗЯЦЕЙ...

Дзіцячы фальклор уваходзіць у жыццё кожнага чалавека. Калыханкі, забаўлянкі, немудрагелістыя песенькі, гульні, лічылкі — усё, з чаго складаецца дзіцячы фальклор, спадарожнічае чалавеку, суцяшае і забаўляе яго, дае першыя веды, выклікае творчую фантазію.

Збіраць і вывучаць беларускі дзіцячы фальклор пачалі ў мінулым стагоддзі Я. Чачот, А. Рыпінскі, П. Шэйн, Е. Раманаў, М. Федароўскі. Яны выклалі свае погляды на асобныя жанры. Спецыяльных жа прац па гэтым пытанні ў беларускай фалькларыстыцы не было да апошняга часу. Толькі трыццацітомны збор беларускага фальклору, які пачала выдаваць Акадэмія навук БССР і аб якім ужо расказвалася ў «ЛіМе», удзяляе дзіцячаму фальклору належнае месца. Неўзабаве, у пачатку наступнага года, выйдзе з друку том — «Дзіцячы фальклор». Што ж у ім знойдзе чытач?

Калыханкі. Іх пяюць над калыскамі дзяцей. Праходзяць гады, мінаюць стагоддзі, мяняюцца сацыяльныя фармацыі і ўмовы жыцця, але заўсёды застаецца пяшчота да маленькага чалавека, клопаты аб ім, матчына любоў. Таму калыханкі — самы папулярны песенны жанр, які бытуе ў сям'і. Яны вабяць хараством, што ідзе з глыбіні матчынага сэрца.

Калыханкі — гэта кароценькія песенькі з простым сюжэтам. Якім кананічным ні заставаўся б тэкст калыханкі, кожнае выкананне нясе элемент імправізацыі, бо нельга знайсці больш інтымны песенны жанр, чым калыханка. Кожная маці па-свойму спявае яе — песню любві да дзіцяці.

А ёсць — забаўлянкі. Іх яшчэ называюць пацешкамі. Сама назва падказвае, што яны прызначаны забавіць, развесяліць дзіця. Звычайна, пад забаўлянкі дзіця рухаецца, гуляе, і таму гэты жанр уяўляе сабою вершаваныя шматрадкоўі з хуткім рытмам, жартоўным зместам. Многія з іх вымаўляюцца рэчытатывам, не спяваюцца. «Лады-ладкі», «Сарока-варона», «Кую, кую ножку», «Ішлі козы рагатыя» — вось найбольш вядомыя забаўлянкі. Асаблівасць забаўлянак тая, што яны адкрываюць перад дзіцём свет гукаў, рухаў, фарбаў, даюць малому першыя звесткі аб жыцці.

Найбольш разнастайныя па змесце, форме, вобразнай сістэме — дзіцячыя песенькі. У час гульні дзеці любяць спяваць іх. Шмат песень яны пераймаюць ад дарослых, асабліва такія, што адпавядаюць іх уяўленням, настрою. Так апынуліся ў дзіцячым фальклоры шмат якія песні дарослых. Гэта песні пра жаніцьбу і смерць камара, пра вераб'я, казу, што пайшла ў арэхі. У дзіцячых песнях шмат элементаў гукаперайманця, імітацыі розных музычных інструментаў.

Не менш разнастайныя і дзіцячыя песні. Адны з іх маюць апісальны характар, дзе паслядоўна развіваецца сюжэт, падрабязна паказваюцца паводзіны звяроў і птушак (песні пра жаніцьбу камара, «Сядзіць мядзведзь на калодзе» і іншыя). Многія песні пабудаваны як пытанні і адказы, дзе кожны адказ выклікае новае пытанне. Гэта песні «Сіўка-воронка», «Дзе ты быў, казюленька?», «Ішоў казёл мастом», «Куды ідзеш, бабка?».

Цалкам перайшлі ў дзіцячы рэпертуар і песні-заклічкі, якія ўяўляюць сабою кароценькія прыгаворы або песні, звернутыя да сонца, дажджу, насякомых, птушак, раслін. Па сваім паходжанні гэта вельмі старажытныя творы, якім калісьці надаваўся магічны сэнс. Зараз яны цалкам сталі здабыткам дзіцячага рэпертуару, як адбылося і з дражнілкамі. У дражнілках, гэтых своеасаблівых узорах народнай дзіцячай сатыры, найбольш выразна адлюстроўваюцца ўяўленні дзяцей аб добрым і дрэнным.

У гульнях дзеці карыстаюцца лічылкамі. Гэта невялікія вершаваныя творы, часцей за ўсё гумарыстычнага характару, з дапамогаю якіх вызначаецца чарговасць у гульні, выбіраюцца дзеючыя асобы або вядучыя. Важную ролю ў лічылках адыгрывае рытм.

А цяпер прапаную некаторыя ўзоры народнага мастацтва, што ўвайшлі ў том «Дзіцячы фальклор». Сярод іх — запісы супрацоўнікаў сектара фальклору нашага інстытута М. Грынблата, К. Кабашнікава, Л. Салавей, І. Цішчанкі, А. Ліса і мае. Ёсць тут і запісы нашых карэспандэнтаў.

Галіна БАРТАШЭВІЧ,
супрацоўніца Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, складальнік тома.



## КАЛЫХАНКІ

⊙

А-а, а-а, каткі два,
Шэры, белы—абодва,
Адзін лысы ловіць мышы,
Другі буры ловіць шчуры,
Адзін пайшоў па капусце,
Носіць сон у белай хусце.
Апсік, каток, на кірмаш,
А Светачка спацькі ляж.

⊙

А-а,-а-а, люлі,
Не маю кашулі.
Чаму не напрала!
Лёньку калыхала.
Чаму не пашыла!
Лёнечку насіла.

⊙

Люлі, люлі, люляшу,
Я дзіцятка калышу,
Нітачку звіваю,
Песеньку спяваю.
Што выведу нітку—
Камару на світку.
Астануцца кончыкі—
Камару на штончыкі.

⊙

А каты мае, каты,
У іх шэрыя хвасты,
Прасіліся начаваць,
Нашых хлопцаў калыхаць.

⊙

Пайдзі, коця, на вулку,
А дзіця ў люльку.
Наката варката,
А на дзіця драмата;
На ката безгалоўе,
А на дзіця здароўе;
На ката ўсё ліха,
А ты, дзіця, спі ціха.
Ты, коця, не вурчы,
А ты, дзіця, спі-маўчы.

⊙

Люлі, люлі, люлі,
Усе дзеці паснулі,
Толькі не спіць коцік,
Ходзіць па балоце.

⊙

Апсік, апсік, каточак,
З'еў бабкін мядочак,
Сама бабка злізала,
На катка сказала.
Апсік, апсік, коця,
Не спі на рабоце,
А спі ў асеці,
Дзе калышуць дзеці.

⊙

Ой, люлі, люлі,
Ветры ў полі загулі.
Ехаў каток ды па дровы,
Загарэлася дуброва.
Пайшоў каток ваду насіці,
Стаў дубравушку тушыці.
Ехаў каток ды па сена,
Забалела калена.
Трэба катка ў хату ўзяці,
Каб пеў баінькі дзіцяці.
Ой, люлі, люлі,
Ветры ў полі загулі.

⊙

Пайшой каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток,
Ці самому есці,
Ці дзіцяці несці.
Я сам крышку ўкушу
І Марынцы занясу.
Пайшоў, коцік, вон, вон,
На дзіцятка сон, сон.

⊙

Люлі, люлі, люлі,
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах,
Сталі сакатаці.
Трэба есці даці:
Ці гароху троху,
Ці ячменю жменю,
Ці аўса ў лубені,
Ці грэчкі з засечкі,
Ці бобу каробу,
Ці кіслага малачка,
Ці кіёчкам па бачках.



## ЗАБАЎЛЯНКІ

⊙

Ладу, ладу, ладкі,
Пабіліся бабкі
За камок цеста
Пасярод места.
А вы, бабачкі,
Вы не біцеся,
Купіце піражок,
Памірыцеся.

⊙

Ладушкі—ладкі
Пановы рабяткі
Гарох малацілі,
Цапы паламалі,
Папу не сказалі,
За ток закідалі.
Папоўз поп на градкі,
Абламаў азадкі,
А пападдзя ў печы,
Разбіла ўсе плечы.

⊙

Ой, ладкі, ладушкі,
Прыляцелі птушкі,
На бабіны грушкі.
Грушкі пасохлі,
А птушкі падохлі.

⊙

Чыкі-чыкі, сарока,
Дзе была!—Далёка
У папа на таку
Малаціла асаку.
Паня сына радзіла,
На коніка садзіла.
Но, конік, да вады,
Шаўковыя павады.
Конік не напіўся,
Паніч утапіўся.

⊙

Чук, чук, чукавала,
Пад рэшатам начавала,
Рэшата радзенька,
Дзіцятка маленька.

⊙

Ходзіць бай па сцяне
У чырвоным каптане,
Носіць семера лапцей:
І сабе, і жане,
І дзіцёнку па лапцёнку.
А ці баець, ці не!
— Бай!
— Тады ты зачынай.
Ходзіць бай па сцяне і г. д.



## ПЕСНІ

⊙

Скачыць, скачыць верабей,
Ён склікаець усіх дзяцей.
Да дзяцей ён просьбу маець,
Ён цілікаець, як знаець.
Скіньце, дзеткі, па зярну,
Я вам песеньку спяю.

⊙

Белабока сарока
Прыляцела здалёка,
Села ж яна на таку,
У яе хвосцік на баку.

⊙

Кукарэка, петушок,
Чырвоненькі грабяшок,
Пад паветачку пайшоў,
Курку рабую знайшоў.
Пачаў у курачкі пытаць,
Ці ўмеець яна чытаць!
— Не чытаю, не пішу,
Толькі яечкі нясу.

⊙

— Зайчык маленькі,
Чым ты жывенькі!
— Я і сам дзіўлюся,
Чым я жыўлюся.
Пасадзіў капусту
Ні рэдка, ні густа.
Пайду я рана,
Капуста парвана,
Пайду я позна,
У капусце росна.

⊙

Ой, казала маці
Кісель памяшаці,
А я не мяшала,
У ключыкі гуляла.
Ключы пагубіла,
Мяне маці біла.
Шукала наўкола —
Ножкі пакалола.
Ажно там спаткала,
Дзе з падружкамі скакала.
Ключыкі, замчыкі,
Мае мілыя танчыкі.

⊙

Пякла баба калачы
У халодненькай пячы,
І якраз ляцеў камар
І калачыкі пакраў.
Цераз вулачку ўцякаў —
Камізэлечку парваў,
І гузікі згубіў,
І Марусю палюбіў.



## ЗАКЛІЧКІ, ПРЫГАВОРЫ

⊙

Свяці, свяці, сонейка,
Каб нам было цёпленька.
Ай, люлі, люлі,
Люленькі, люлі.
Пад хаткаю седзячы,
Лусту хлеба дзержачы,
Яечкі качаючы,
Песенькі спяваючы.

⊙

Не йдзі, не йдзі, дожджыку,
Звару табе боршчыку.
Ай, люлю, люлі,
Люленькі, люлі.
Пастаўлю пад лаўкаю,
Накрыю лапаткаю.
Пастаўлю пад сенцамі,
Накрыю паленцамі.
Пастаўлю пад елкаю,
Накрыю талеркаю,
Талерка здымецца,
А дожджык унімецца.

⊙

Божая кароўка,
Што заўтра будзе —
Дожджык ці пагода!
Калі дожджык — то ляці,
Калі пагода — то сядзі.

⊙

Божая кароўка,
Паляці на небка,
Прынясі нам хлебка
Чорнага і белага,
Толькі негарэлага.

⊙

Скок-паскок
Малады драздок,
Па вадзічку пайшоў,
Маладзічку знайшоў.
Маладзічка невялічка:
Сама з вяршок,
Галава з гаршок.



## ЛІЧЫЛКІ

⊙

Раз, два, тры, чатыры,
Кошку грамаце вучылі.
Не чытаць, не пісаць,
А за мышкамі скакаць.

⊙

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Выйшаў зайчык пагуляць,
А за зайцам серы воўк,
Воўк у зайцах знае толк.

⊙

Раз — дзесяць
Выплыў ясны месяц,
А за месяцам луна,
Выйшла дзевіца-слуга.
Ты, слуга, падай карэту,
Ты, слуга, падай мятпу,
А я сяду памяту.

⊙

Я сядзеў чытаў газету,
Нехта выпусціў ракету.
Раз, два, тры —
Гэта верна будзеш ты.

⊙

Сем семярэй
І сямёра свіней,
Свінка і свінчын брат
І сямёра парасят.

⊙

Бег сабака цераз мост,
Чатыры лапы, пяты хвост.

⊙

Ехаў мужык па дарозе,
Зламалася калясо ў возе.
Колькі трэба спіц,
Каб калясо пачыніць!

⊙

Едзе брычка, званоч звоне,
Выйшла пані лічыць коні:
Раз, два, тры,
Выйдзі, мілы, ты



## ДРАЖНІЛКІ

⊙

Антон-Харытон
Забіў бабу хамутом,
Сазваў гасцей,
Наварыў касцей.
— Ешце, ешце, госці,
Маёй бабы косці.

⊙

Антось барадаты
Вёў казу каля хаты,
Антасіха падганяла,
На цукеркі зарабляла.

⊙

Змітрок-малышок,
Як паехаў да ракі,
Дык заелі чарвякі.

⊙

Бусел, бусел клекатун,
Схапіў жабу за каўтун,
Па балоту валачыў,
Нагавіцы замачыў.

# ВАРШАЎСКАЯ ВОСЕНЬ

БЕРНД Алоис Цымерман (ён памёр летась) напісаў сваю оперу «Салдат» у 1958—1960 гадах. Гэта трагічны па змесце твор, які расказвае гісторыю падзення дзяўчыны, раздушанай бесчалавечнасцю. Марыя пяшчотна і чыста кахала юнака, прадаўца сукна Штольцыуса. Аднак воляю лёсу стала каханкай афіцэра — барона... Штольцыус, страціўшы надзею вярнуць каханую, помсціць барону. Ён становіцца салдатам, трапляе ў дзяншчыкі да яго сябра. І аднойчы, калі барон абедае ў яго гаспадара, юнак атручвае барона і сам канчае жыццё самагубствам. Марыя аказваецца на панелі, адзінокая, зняважаная.

Такая ў двух словах фабула гэтага твора. Музыка оперы напісана ў традыцыях сучаснага музычнага авангарду. Яе характар узбуджана-напружаны з тэндэнцыяй асуджанасці, які дасягае велізарных трагічных кульмінацый. Аркестр уяўляе сабой «хістка-вагальны» фон, а вакальныя партыі надзвычай складаныя ў рытміцы і мелодыі.

...У пастаноўцы оперы рэжысёр Георг Рэйнгард выкарыстоўвае кінопраекцыю, дынамікі ў зале. Цікава вырашана мастацкае афармленне. Дэкарацый на сцэне амаль няма: стол, некалькі крэслаў. У кожнай карціне высоўваецца з-за куліс сцяна, на якой буйна сфатаграфаваны інтэр'ер (у ёй непрыкметна выразаныя дзверы, праз якія ходзяць персанажы). Зверху апускаюцца тры няправільнай формы экраны, на якія праецыруюцца дэталі інтэр'ера або вуліцы. Перад карцінамі оперы зверху апускаюцца экраны, на якіх па-польску зроблены кароткія анатацыі аб падзеях, якія апушчаны ў сцэнах, аб'яўляецца слухачам далейшы ход развіцця дзеяння.

Вельмі цікава вырашаецца рэжысёрскі апошні, чацвёрты акт оперы. На экранах кінакадры, якія малююць моманты маральнага падзення Марыі; у гэты час на сцэне — масоўка, гнеўная сцэна — пратэст многіх людзей супраць гэтай бесчалавечнасці. У дынаміках — трагічна-напружаныя гукі і крыкі. Потым гледачы бачаць на сцэне Марыю, яна адна стаіць на вуліцы, няшчасная, адвергнутая людзьмі. Яе не пазнае родны бацька, які выпадкова сустрэў яе на начной вуліцы. На экранах — буйным планам камяні маставой, на гэту праекцыю пушчаны кінакадры — салдаты, якія ідуць. Яны рухаюцца мерна, чотка, тупа і жорстка, і рытм іх крокаў гучыць у аркестры і ў дыnamіку: крокі і рытмы барабанаў, якія іх суправаджаюць, гучаць неадначасова, рытмы зрушаны... Цемра. Марыя ляжыць на бруку, тупыя, жорсткія, бесчалавечныя крокі салдатаў... Такі фінал надае дзеянню пэўны сацыяльны сэнс.

Опера вельмі цяжкая для выканаўцаў: артыстаў, музыкантаў, дырыжора (Гюнтэр Віх), але спраўляюцца яны са сваёй задачай добра. Другая опера ў іх жа выкананні — «Лулу» Альбана Берга. Кампазітар стварыў яе ў 1928-34 гадах. Музыка оперы вырашана ў дадэкафоннай сістэме, з выкарыстаннем 12-ступеннай серыі. Гэта музыка атанальная. У аркестры не праслухоўваецца прывычная вертыкаль, меладычная мова вакальных партый надзвычай своеасаблівая і складаная для спевакоў. Развіццё дзеяння праходзіць напружана, дынамічна.

Нешта агульнае ў сюжэтнай канцэпцыі збліжае абедзве оперы. «Лулу» — опера аб жыцці і гібелі жанчыны лёгкіх паводзін, пра яе любоўныя сувязі, якія суправаджаюцца эпізодамі смерці, забойства, самазабойства тых людзей, з якімі яна была звязана. Джоан Кераў, спявачка, якая сыграла ролю Лулу, зрабіла, на маю думку, проста немагчымае: музычная партыя Лулу неймаверна цяжкая, сцэнічны вобраз вельмі складаны, напружана-трагічны — вырашаны ёю бліскуча.

Рэжысёр Георг Рэйнгард паставіў спектакль у рэалістычнай манеры, выкарыстоўваючы рад востра натуралістычных момантаў у паказе ўзаемаадносін герояў. Зала напружана сочыць за дзеяннем на сцэне, аддаючы даніну павагі вялікаму майстэрству ўдзельнікаў спектакля...

Канцэрты фестывалю ішлі адзін за адным, зноў і зноў здзіўляючы сваімі кантрастамі. Адзін з іх запомніўся асабліва. Ён адбыўся... у касцёле, і гэта было падзеяй фестывалю: упершыню духоўныя ўлады дазволілі правесці канцэрт у святым храме. Кафедральны сабор святога Яна быў адноўлены 15 гадоў назад, у тым жа стылі, у якім быў пабудаваны ў XIV стагоддзі. У склепе сабора спачывае прах выдатнага польскага пісьменніка Генрыка Сянкевіча, перавезены са Швейцарыі ў 1927 годзе.

Унутры касцёла няма ніякіх роспісаў, сцены і столь аскетычна простыя, на іх толькі «намаляваны» ўзоры з цэглы. Люстры — металічныя абручы, што вісяць на жалезных ланцугах.

У вечар, калі тут праходзіў канцэрт, у касцёле дзіўна выглядалі пражэктары, мікрафоны, дынамікі, тэлевізійныя камеры. У дадатак да лавак, на якіх звычайна ў час службы сядзяць парафіяне, было расстаўлена многа крэслаў, і крэслы і лаўкі былі пранумараваны. Філарманічныя біляцёры ў сваіх форменных касцюмах хадзілі па зале і рассаджвалі публіку.

Ажыятаж вакол маючага адбыцца канцэрта быў велізарны. Шчаслівыя гаспадары білетаў павінны былі прабівацца праз велізарны, шчыльны натоўп, што стаяў ля дзвярэй.

Канцэрт доўга не пачыналі, чакалі прыезду высокага духоўнага начальства.

Кшыштаф Пендарэцкі, адзін з самых славутых у Польшчы сучасных кампазітараў, паказаў «Ютрань», вялікі вакальна-сімфанічны твор для салістаў, змешанага хору і хору хлопчыкаў, сімфанічнага аркестра.

У музыцы «Ютрані» — змрок і ўрачыстая таямнічасць, трывога, напружанне і моманты прасвятлення. У асноўным гэта музыка атанальная, але ў радзе месц на першы план вылучаецца акордава-гарманічны склад.

Выканаўцы твора Кшыштафа Пендарэцкага прыехалі з Кракава. Гэта калектывы Дзяржаўнай філармоніі імя Караля Шыманоўскага, дырыжор Ежы Катлевіч, салісты Стэфанія Вайтовіч, Крысціна Шчапаньска, Казімеж Пустэлак, Бернард Ладыш, Рэтар Лагер... Канцэрт меў шумны поспех у публікі.

Нашы ўражанні ад сучаснай музыкі пастаянна перамешваліся з уражаннямі ад помнікаў далёкай старажытнасці, на якія багатая Польшча. У адзін з дзён наша група пабывала ў Вілянове — загараднай рэзідэнцыі польскіх каралёў. Замак быў пабудаваны ў XVII стагоддзі. Зараз гэта цудоўны музей, у якім знаходзіцца выдатная карцінная галерэя з вялікай экспазіцыяй партрэтаў каралёў і магнатаў. Тут сабрана таксама унікальная калекцыя грэчаскіх дэкаратыўных ваз, іншага старажытнага посуду, мэблі. Раскошныя роспісы сцен і столі. Некаторыя з гэтых роспісаў былі выяўлены зусім нядаўна, у час рэстаўрацыйных работ. Тады ж была знойдзена і скульптура Геркулеса, невядомая наведвальнікам замка многія дзесяцігоддзі.

Пасля сустрэчы з далёкай старажытнасцю, наведаўшы гэты храм мастацтва, мы вечарам трапляем на канцэрт, які зноў вяртае нас да «сучасных» сродкаў музычнага мыслення. Начны канцэрт электроннай музыкі ў камернай зале філармоніі. Кёльнскі ансамбль новай музыкі выконвае эксперыментальны твор свайго кіраўніка — кампазітара Маўрысіо Кагеля «Акустыка».

Мэтай гэтай кампазіцыі, як сказана ў анатацыі, з'яўляецца пошук новых сродкаў гучання, якія выступаюць як сцвярджэнне і пашырэнне магчымасцей традыцыйных інструментаў і выяўляюць адначасова новую крыніцу музычнай актыўнасці.

Мне цяжка коратка расказаць аб тым, што давялося пачуць у гэтым творы. Ён працягваўся без перапынку 75 мінут. За гэты час выканаўцы (іх пяцёра) паспяваюць зрабіць мноства самых розных маніпуляцый з музычнымі інструментамі, з мноствам усялякіх прадметаў, электронных апаратаў, магнітафоннай плёнкі, транзістарамі, антэнамі, мікрафонамі. У дынаміках (яны размешчаны ў зале) увесь час гучаць запісаныя на магнітафонную стужку самыя разнастайныя і самыя дзіўныя гукі, на кульмінацыях слухачам даводзіцца ў літаральным сэнсе затыкаць вушы! А музыканты працуюць: надзімаюць гумавыя шары, трасуць бразготкамі, кідаюць з рук у рукі і на падлогу металічныя прадметы і драўляныя палачкі, дзьмуць у дзіцячую дудачку з гумавым шарыкам «Адыдзі — адыдзі». Трамбаніст праз трубку, далучаную да раструбка інструмента і апушчаную ў вядро з вадой, здабывае булькаючыя гукі. У якасці музычнага інструмента фігуруе ліст сталі, які трасе адзін з выканаўцаў. У ход ідуць званочкі, грэбень, металічныя трубачкі, дзіцячы цацачны прапелер, які круціцца на тасёмцы, крыкі музыкантаў; кракание трубы або трамбона, ігра смычком ад скрыпкі па драўляных палачках, насаджаных на круглую падстаўку, і ігра палачкай па струнах скрыпкі; ігра на гітары — па дэцы гладзяць, стукаюць, проста «слухаюць» інструмент (не здабываючы з яго гукаў)... 75 мінут ідзе гэта п'еса. Публіка, якая спачатку пасмейвалася, пачынае пакідаць залу...

Заключныя хвіліны... Іх усё-такі дачакаліся многія з прысутных на канцэрце: усё ж цікава, чым закончыцца. Пасярэдзіне сцэны стаіць невялікі транзістар з выцягнутай антэнай. Музыканты на кукішках размясціліся ля рампы. Яны складаюць кавалкі металічнай трубкі, потым запальваюць газавую гарэлку, паступова награваюць трубку па ўсёй яе даўжыні. Водзяць уздоўж яе мікрафонам, улаўліваючы хістанні хваляў ад нагрэтага металу. Паступова трубы астываюць, усе гукі сціхаюць. Паўза. Апладысменты тых, хто вытрымаў, застаўся, здолеў даслухаць да канца...

А раніцай мы выходзім на вуліцы Варшавы. Цёплы не па-асенняму дзень, сонца. На вуліцах многа народу, ажыўлены рух. Па вуліцы Новы Свят праязджае незвычайная працэсія: наперадзе — машына, з якой праз дынамік вядзецца агітацыя за масавасць фізкультуры, спорту. Услед за машынай едзе кавалькада старажытных экіпажаў, карэт. У іх сядзяць захутаныя ў футры, цёплыя пледы дамы ў суправаджэнні кавалераў. А ўслед за імі — вялікая група маладых веласіпедыстаў у спартыўных касцюмах.

Адзін з удзельнікаў нашай групы расказаў аб другім эпізодзе з жыцця Варшавы, які яму давялося ўбачыць. Нядзельнай раніцай на плошчы адбываўся агляд і парад войска. У час аб'езду камандуючага аркестр іграў паланезы. Гэта было вельмі маляўніча́е відовішча. Перад самым пачаткам парада аркестр сыграў папуры з маршавых мелодый, апошняй з іх была мелодыя «Песні аб Радзіме» Дунаеўскага...

У Варшаве ўдалося пабываць на выстаўцы сучаснага польскага жывапісу, скульптуры, графікі, шкла. Ці можна словамі перадаць змест гэтых работ польскіх мастакоў і скульптараў? Вельмі цяжка. Большасць з прадстаўленых твораў — узоры абстрактнага мастацтва, пазбаўленыя мастацкага вобраза, думак...

А вось яшчэ адна з варшаўскіх карцінак. Пасярэдзіне тратуара — кавалак цаглянай сцяны, перад ёй — кветкі і мемарыяльная дошка: тут быў дом, каля якога немцы ў гады акупацыі расстралялі некалькі дзесяткаў палякаў. Такіх помнікаў у Варшаве больш трохсот — на сценах адноўленых дамоў прымацаваны мемарыяльныя дошкі, на палічках стаяць вазоны з кветкамі, упрыгожаныя чырвонымі стужкамі, уначы тут жа гараць ліхтары. Зварушлівая памяць аб тых, каму не давялося дажыць да вызвалення...

Варшава працуе, адпачывае, спяшаецца некуды і спакойна гуляе ў цудоўных парках. А ў канцэртных залах працягваецца паказ праграм фестывалю «Варшаўская восень».

У адным з сімфанічных канцэртаў выступіў нідэрландскі аркестр радыё і тэлебачання пад кіраўніцтвам Анджэя Маркоўскага. Праграма вельмі разнастайная, і слухачам даводзіцца ўвесь час «перастройвацца» на ўспрыняцце зусім розных эмоцый, вобразаў, гучанняў.

Пасля чатырох эцюдаў для аркестра Ігара Стравінскага, яркай, дабротнай музыкі, гучаў твор сучаснага польскага кампазітара Анджэя Даброўскага «Амар» — музыка для аркестра № 2, авангардысцкага плана. Потым — «Лантана» («Далячыні») для аркестра венгра Георга Лігэці, зыбкая, расплывістая музыка, «зацягнутая» рамантычнай смугой. Слухачоў, як, магчыма, і музыкантаў ахоплівае адчуванне нейкага здранцвення. Тут ёсць настрой, прыгожыя гучанні, але гэта расплывістасць вобразаў захоўваецца да канца, паступова растаючы.

Вядомы галандскі кампазітар Тон дэ Леў прадставіў твор пад назвай «Наікі II» — для сапрана і аркестра (на тэксты з японскай паэзіі). Саліравала Джоан Керл, якая перад гэтым запомнілася слухачам у партыі Лулу ў оперы Альбана Берга. Цяпер мы здолелі яе ўбачыць у непасрэднай блізкасці, таму што яна спявала не толькі на сцэне. Чатыры музыканты з аркестра (выканаўцы на духавых інструментах) размясціліся ў розных канцах залы (двое перад сцэнай, двое — у розных баках праходу), спявачка ж хадзіла па зале, спынялася перад кожным музыкантам і спявала ў дуэце разам з імі...

У апошнія дні сімфанічныя канцэрты ішлі адзін за адным. Музыка здзіўляла, іншы раз палохала, часам радавала. Мноства незнаёмых гучанняў, дзіўных прыёмаў здабывання гукаў, якія патрабуюць ад музыкантаў велізарнага майстэрства...

У творы польскага кампазітара Яна Фотэка «Эпітасіс» (што можна перавесці як «унутранае напружанне») запомніўся гэты напружаны «музычны нерв», які даходзіў да сапраўднага «хаоса» ў аркестры, і заключныя гукі, калі ўсе музыканты нешта закрычалі.

У п'есе Энрыке Ракіча, кампазітара з Іспаніі, аркестр гучыць разам з магнітафонам. Дырыжор Паўль Хупертс (той жа нідэрландскі аркестр) націснуў кнопку вялікага гадзінніка, што стаяў перад ім на падстаўцы (гэтым быў пушчаны ў работу магнітафон), і пачалася музыка.

У адным з сімфанічных канцэртаў выступіла славутая штадскапэла з Дрэздэна пад кіраўніцтвам Зігфрыда Курца. Музыканты выканалі сімфонію Тадэвуша Баірда, канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Райнера Кунада (саліст Гюнтэр Каотц), сюіту з балета Ігара Стравінскага «Жар-птушка». Слухачы добра прынялі гэты канцэрт. А ўжо праграма наступнага канцэрта была прынята больш стрымана. Іграў сімфанічны аркестр Сілезскай дзяржаўнай філармоніі пад кіраўніцтвам Караля Стрыі. Калі гучала п'еса Вінко Глабакара «Дзіскур 3» (яе выканаў саліст-габаіст Хейнц Халігер з магнітафонам), слухачы іншы раз гучна смяяліся (на сімфанічным канцэрце ў зале філармоніі гэта, відаць, не частая з'ява) — да таго дзіўна, недарэчна гучаў габой: ён трашчаў, стагнаў, плакаў, пішчаў, рыкаў, свістаў. Іншы раз здавалася, што вые сабака, недзе кукарэкае певень. Тэхніка музыканта — фантастычная. Мы не ўяўлялі, што такі знаёмы нам габой, пяшчотны па гучанні інструмент, можа мець такую разнастайнасць тэмбраў. І ўсё гэта гучала разам з дынамікамі, з якіх у залу ішлі хвалі гукаў: і той жа габой, і балтоўка, і крыкі, і галашэнні...

Спявак Анджэй Хёльскі праспяваў з аркестрам кантату Вітольда Шалонека, і было дзіўна, як спявак і аркестр здолелі спалучацца ў гэтым патоку атанальнай музыкі.

І ўслед за гэтым — п'еса для аркестра, хору і сапрана Войцэха Кілара — ясная, чыстая музыка, святочная і меладычная.

У адным з канцэртаў публіка не дала дайграць да канца твор. Аркестрам Сілезскай дзяржаўнай філармоніі дырыжыраваў Жанп'ера Таверна, вопытны італьянскі музыкант, які не раз выступаў з буйнейшымі аркестрамі многіх еўрапейскіх краін. Выконвалася п'еса Сальваторэ Скіарына «Калыханка». У музыцы нічога не было ад калыханкі. Адна нервовая мелодыка-рытмічная фігура паўтаралася мноства разоў, так што слухачы ўрэшце не вытрымалі і сталі пляскаць у далоні. Аркестр працягваў іграць, публіка працягвала пляскаць у далоні. Урэшце гэта аднаборства закончылася перамогай залы: дырыжор спыніў аркестр, павярнуўся да залы, усміхнуўся, развёў рукамі — што, маўляў, зробіш — і пайшоў са сцэны.

Алена РАКАВА

Заканчэнне. Пачатак у мінулым нумары.

# НЯЎРОКАМ КАЖУЧЫ

Узялі мы ў рукі адну цікавую кніжачку з нязвыклай назваю «Няўрокам кажучы» і адразу заўсміхаліся. Кніжачка, аказваецца, не простая, а з добрай смяшынкай! Зычліва і весела абышлі беларускі Парнас мастак Міхась Лісоўскі і паэт Рыгор Барадулін. Ёсць на што глянуць, ёсць што прачытаць. Але ж гэты твор дасціпнасці пакуль што не з'явіўся на кніжных паліцах, ён — у выдавецтве. Ды і калі з'явіцца, то не кожны чытач натрапіць на яе — тыраж кніжкі смяхотна маленькі.



Максім ТАНК

З крыніцы славы п'ю даўно,
А дна дагэтуль не відно!



Андрэй МАКАЁНАК

Заўважан Музай я з пялёнак:
«Далёка пойдзе Макаёнак!»
Пакуль глядач «на ўра» прымае,
Дарога ў класіку прамая.



Яўген КРАСОЎСКІ

Эксперыменты... Эксперыменты...
Аглушаць (веру!)
Апладысменты.



Сяргей ГРАХОЎСКІ

Маленства босага ўспаміны,
Як многа вы далі задум.
Мне любы кажушок айчынны,
Новабудоўляў гул і тлум.



Анатоль АСТРЭЙКА

Да гэтых дзён здаецца мне —
Я ў партызанскім будане.



Пятрусь МАКАЛЬ

Арбіта у мяне свая,
Штодзень кручуся ўпарта я
Вакол сваёй персонкі,
А часам — каля жонкі.

Леанід ПРОКША

# САМАДЗЕЙНАСЦЬ У ЛІФЦЕ

ПРЫЕХАЎ я неяк у Вільню на свята літоўскіх пісьменнікаў. Да гасцініцы «Дзінтарас» з вакзала рукой падаць. Перайсці шырокую плошчу, сквер. Толькі хацеў спытаць адміністратара наконт месца, як:

— Вы з Мінска? — не даў мне адкрыць рот прыемнага выгляду таўсцяк.

Я кіўнуў.

— Вельмі добра. Я павінен быў вас сустракаць на вакзале, але падумаў: адкуль я магу ведаць, што вы — гэта вы? Рашыў чакаць тут.

— І я не мог бы здагадацца, што вы — гэта вы, — адказваю.

Мы пазнаёміліся.

Ёзас Хлівінскас узяў у адміністратара дазвол на пакой, і мы накіраваліся да ліфта.

— Якраз паспеем. Пачатак у адзінаццаць. Уладкуемся ў нумары і паедзем.

У ліфце былі ўжо дзве жанчыны. Ёзас пазнаёміў мяне з імі: Валянціна Дзмітрыева і Бэла Залеская. Маскоўскія літаратары.

— Вельмі прыемна...

Ёзас націснуў кнопку, механічна зачыніліся дзверы ліфта, і мы пачалі падымацца ўгару. На трэцім паверсе ліфт затрымаўся, але дзверы толькі крышачку прачыніліся — як нос прасунуць. І стоп. Ціснем адну кнопку, другую — ліфт ні туды, ні сюды.

— Эй, там, людзі! — крычыць праз шчыліну Ёзас. — Паклічце адміністрацыю.

У шчыліне з таго боку — нос і пара вачэй:

— Што здарылася?

— Сапсаваўся ліфт.

— Трэба націснуць...

— Ціснуў ужо на ўсе кнопкі.

— А-а...

— Калі ласка, паведаміце адміністратару.

— Добра. Пачакайце, я зараз.

— Не бойцеся, мы нікуды не ўцячэм.

Чакаем. Масквічкі з раніцы паспелі пабываць на базары, купілі радыскі, яблыкаў.

— Калі ласка, — частуюць яны нас.

— Невядома, колькі мы будзем вісець, можа варта эканоміць правізію, — кажу жанчынам.

У шчыліне — новы нос і вочы.

— Што вы тут робіце?

— Ды вось радыску ядзім, а солі няма. Можа падкінеце?

— Добра, — усур'ёз адказвае чалавек. — Адну хвіліначку. Вы пачакайце.

Людзям здаецца, што мы можам некуды знікнуць. Чакаем — што зробіш.

У шчыліне зноў нос і вочы:

— Шукаюць электраманцёра. Давядзецца вам пачакаць, — просіць прабачэння адміністратар.

Чакаем. Пазіраем на гадзіннікі. Урачыстасць ужо вось-вось пачнецца.

У шчыліне — нос і вочы.

— Электраманцёра не знайшлі. Шукаюць шафёра.

— А чаму шафёра?

— Павінен паехаць па электраманцёра.

Вісім. Чакаем. З'елі радыску, падналеглі на яблыкі. На пляцоўцы ідзе пра нас гаворка.

— Хто там? Літаратары? Так ім і трэба. Хай пасядзяць, папакутуюць, няхай больш пішуць на сучасныя тэмы...

— Тут і так горача, а яны ўзяліся нас крытыкаваць, — нервова ўспрымае крытыку Ёзас.

Вентыляцыя ў цесным ліфце слабая. Зверху лямпа грэе, як афрыканскае сонца.

— Можа б распрануцца?

— Пінжакі скінуць дазваляем, — кажуць жанчыны.

— І то добра.

А на пляцоўцы:

— У мінулую суботу чалавек павіс на чацвёртым паверсе. Выйшаў толькі ў панядзелак, бо — манцёр быў выхадны. Тады дзверы не адчыніліся нават на шчыліну. Не было як падаць небараку хоць нешта з'есці.

— Нічога сабе перспектыўка, — перасмыквае плячыма Ёзас.

А на пляцоўцы:

— Ім весялей, іх чацвёра, якраз да пары!

І, кінуўшы нам праз шчыліну іранічнае: — Жадаем весела правесці час! — знікаюць.

Гэта нам падказала цікавую думку.

— А што, калі заняцца самадзейнасцю? — сказаў Ёзас. — Я некалі нядрэнна танцаваў.

І ён пачаў падскокваць і прытупваць, а мы ў такт яму пляскалі ў далоні.

Ліфт закалыхаўся, затросся: як-ніяк у Ёзаса каля сотні кілаграмаў. І... дзверы адчыніліся.

Гадзіна праляцела непрыкметна. Нават шкада было пакідаць такую вясёлую кампанію.

# З ПОЛЬСКАГА ГУМАРУ

## НЕПАТРЭБНЫ ВЫДАТАК

Хлопчык падносіць бацьку навагодні падарунак. Бацька гаворыць:

— Сынок, найлепшым падарункам для мяне былі б твае добрыя адзнакі.

— Шкада, тата, што ты не сказаў гэта раней. Я не выдаткаваў бы дарэмна грошы.

## ПАЛАВІНА

— Як ты правёў навагоднія святы?
— Палавіну — у гарах.
— А другую палавіну?
— У гіпсе.

## НЕПАКОЙ

Ясь прыйшоў да псіхіятра.

— Пан доктар, я хачу сказаць не пра сябе. Мяне вельмі непакоіць тата, які пачаў выдаваць сябе за Дзеда Мароза.

## ДЫЭТА

Размаўляюць два знаёмыя.

— Уяўляеш, якраз перад святамі мне ўрач парэкамендаваў безалкагольную дыэту.

— Ну, і як? Стала менш кілаграмаў?

— Не, сяброў.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 08034.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарэва, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.